# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праудзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Непрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 50 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год II. Вільня, Субота 21-га кастрычніка 1922 г. № 28 (53).


## № 16. ГРАМАДЗЯНЕ, ГАЛАСУЙЦЕ ЗА БЕЛАРУСКІ СЬПІСАК № 16! № 16.

# Нашы кандыдаты.

Аканчаньне.

### 7. Браніслаў Тарашкевіч.

Сярод сучасных беларускіх нацыянальных дзеячоў гэты асабліва вызначаецца, як вучоны прафэсар і тварэц беларускае граматыкі. А і ён выйшаў, як бліву ўсе другія, з сялянскае хаты.

Радзіўся Тарашкевіч у 1892 годзе ў вёсцы Чарнулішкі, Міцкунскае воласьці, Віленскага павету, — у 4-ох мілях ад места Вільні. Пазнаёміўшыся ў бацькі з усімі вясковымі работамі, што выпадаюць на долю сялянскіх дзяцей, пачаў хадзіць у Лаварыскую пачатковую школу, якую і скончыў. У гімназіі ён вучыўся ў Вільні ды тут пазнаёміўся з беларускім рухам заходзячы да радакцыі „Нашае Нівы". Горача захапіўшыся беларускай справай, ён паехаў у Пецярбург у унівэрсытэт і паступіў на філёлёгічны факультэт з той думкай, каб спэцыяльна працаваць над разьвіцьцём беларускае мовы. Яго праца ў гэтым кірунку была як сълед ацэнена прафэсарамі, і пасьля сканчэньня навукі ён быў затрыманы пры ўнівэрсытэце за прафэсара. У 1918 годзе яму далі права выкладаць беларускую мову ў Пецярбурскім унівэрсытэце. Але тутака Тарашкевіч ня ўседзіў: яго цягнула на Бацькаўшчыну-Беларусь, і ён кінуўшы сваю кар'еру, перабраўся ў Менск ды тутака быў прафэсарам у беларускім пэдагогічінстытуце. У гэтым-жа часе надрукаваў і сваю граматыку беларускае мовы.

Але жывое жыцьцё не дало яму абмежыць сваю дзейнасьць толькі навуковай працай. І вось Тарашкевіч прыймае чыннае ўчасьце ў беларускай палітычнай працы, як сябра Рады Рэспублі- ў Менску і пасьля як старшыня Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны ў Вільні. Але найбольш сіл сваіх аддае ён школьнай справе. Тарашкевіч стануў на чале Беларускае Школьнае Рады, як старшыня яе, і за час істнаваньня так-званае „Сярэдняе Літвы" здалеў адкрыць каля 200 беларускіх школ ( — праўда, блізу ўсе яны пасьля былі пазачыняны палякамі!). Цяпер Тарашкевіч займае становішча дырэктара Беларускае Гімназіі ў Вільні і сэкратара Беларускага Навуковага Товарыства.

Належыць да партыі беларускіх Соцыял-дэмакратаў.

Будучы ў Сойме Тарашкевіч лягчэй здолее наладзіць як сьлед нашу школьную справу і сваей павагай дэпутата абароніць беларускую школу ад цяперашніх зьдзекаў.

### 8. Язэп Туркевіч.

Найвыдатнейшы прадстаўнік беларускіх работнікаў і ўсяе работніцкае клясы места Вільні.

Язэп Туркевіч — сын селяніна з Падбродзя, Свенцянскага павету. Радзіўся ў 1876 годзе. Вучыўся на сталяра.

Яшчэ дзяцюком быў, калі захапіўся ідэяй барацьбы работніцкае клясы з капіталам. 18 гадоў яго за агітацыю сярод работнікаў пасадзілі першы раз у вастрог. З таго часу вось ужо дваццаць пяць гадоў неўтаміма працуе дзеля грамадзкае справы, жывучы ўвесь час у Вільні. У 1906 годзе ён, як соцыял-дэмакрат, рэдагуе соцыял дэмакратычную часопісь „Žarija". Рэвалюцыйны рух 1905 году зближае яго з беларускім рухам. Ён працуе адгэтуль у поўным контакце з Беларускай Соцыялістычнай Грамадой, у часе мітынгаў выступаючы з гарачымі беларускімі прамовамі.

Шмат заслужыўся таварышам-работнікам у часе нямецкае акупацыі, арганізуючы самапомач. Яго стараньнямі былі закладзены работніцкі клюб, работніцкая страўня і работніцкі ваапэратыў. У працягу трох гадоў займаў становішча старшыні прафэсыянальнага саюзу будаўляных работнікаў. Адначасна быў сябрам Цэнтральнага Бюра Работніцкіх Прафэсыянальных Саюзаў і цэлы год быў старшынёй і віцэ-старшынёй Ц. Б. Цяпер ён віцэ-старшыня саюзу будаўляных работнікаў.

У тым-жа часе Туркевіч незабываўся і аб беларускай справе. Пры немцах ён уваходзіў у склад Беларускае Соцыял - Дэмакратычнае Работніцкае Групы і быў прадстаўніком апошняе ў законспірованным Беларускім Народным Камітэце, які кіраваў усей тагачаснай беларускай палітычнай працай. Быў такжа сябрам Рады Рэспублікі ў Менску, дэлегаваны туды віленскімі беларускімі арганізацыямі.

Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт паставіў імя Язэпа Туркевіча на першым беларускім месцы на сьпіску кандыдатаў ад Віленскага акругу пад № 16 Роля, якая чакая Туркевіча ў Сойме, надта вялікая і важная: гэты неўтамімы баец за ідэалы работніцкае клясы і за беларускую ідэю будзе шчырым абаронцам нашага народу і ўсіх працаўнікоў. Цярпеў ён прасьледаваньні ад усіх урадаў, якія панавалі ў Вільні, бачым усе вастрогі, — ды ніякія кары і пагрозы не здалелі зьвясьці яго з абабранае дарогі.

І не зьвядуць!

### 9. Фэбіян Ярэміч.

Сын селяніна з Ваўкаыск белавету. Радзіўся ў 1891 годзе. Прайшоў звычайную жыцьцёвую дарогу вясковага хлопчыка і скончыў вясковую школу. Пасьля паехаў у Пецярбург і тутака, ня гледзячы на недахват грошы, яму ўдалося скончыць электра-тэхнічную школу. З таго часу працаваў, як тэхнік, па праводцы электрыкі і займаў у Вільні некалькі гадоў становішча тэхнічнага кіраўніка тэлефоннае сеці. Як беларускі соцыял-дэмакрат, ён на гэтым становішчы шмат папрацаваў дзеля арганізацыі пачтова-тэлеграфных служачых.

